

*Прывітанне,*
*сябры!*

*Дзівосны снежань... Месяц, у якім мы прыгадваем мінулы год і рыхтуемся да новага, падводзім вынікі і загадваем жаданні. Час цудаў, прыгажосці, смачных пачастункаў. Мы верым: свята ў нашых руках, і ад нас залежыць, якім яно запомніцца. Давайце зробім яго незабыўным! Будзем упрыгожваць свае дамы і ялінкі, выбіраць і ствараць падарункі, песціць сябе і блізкіх. Хай навагодні спецвыпуск дапаможа ў гэтым!*

*Мы кажам дзякуй 2015 году, бо менавіта ён падарыў нам першы нумар часопіса ALOVAK. Мы ўдзячныя вам, дарагія чытачы, за вашу цікавасць, водгукі і ўдзел. Жадаем усім святочнага настрою, душэўнасці, цёплых сустрэч і натхнення!*
*Сустрэнемся ў новым, абавязкова шчаслівым і творчым, 2016 годзе!*

*Ваша каманда ALOVAK*

# Каманда ALOVAK:

## *СТВАРАЛЬНІКІ ЧАСОПІСА:*

Кацярына БУТО



Ірына БЕЛЬСКАЯ



## *РЭДАКТАРЫ:*

Надзея ЗІМІРАВА



Вераніка УЛЬЯНАВА



Вольга БАРЫСЕНКА



## *НАД НУМАРАМ ПРАЦАВАЛІ:*

Вікторыя АНЖЭ
*аўтар*



Дар'я УЛАСАВА
*ілюстратар*



Таццяна ГРОСЛЕР
*перакладчык*



Алена ДЗЯДЗЮЛЬ
*аўтар*



Яна ЯФРЭМАВА
*фатограф*



Марыя ЗАВАДЗСКАЯ
*фатограф*



Яна МЕЛЬКО
*аўтар*



Ксенія СВЯТЛІЧНАЯ
*аўтар*



Таццяна ХЛАПКОВА
*аўтар*



Кацярына ЧАРНЯЎСКАЯ
*аўтар*



Ваша імя*



*Хочаце прымаць удзел у стварэнні часопіса ALOVAK?
Раскажыце нам пра сябе на alovakmag@gmail.com

Рэклама ў часопісе ALOVAK.
Мы разгледзім вашы заяўкі на alovakmag@gmail.com

Змест
















# НАВАГОДНІЯ ІДЭІ

*Прызнаемся, нам пашчасціла рыхтаваць такую серыю фотаздымкаў! Як эльфы на працы ў Санта Клаўса, мы сваімі рукамі быццам бы набліжалі гэты цудоўны навагодні час. З задавальненнем дзелімся святочнымі ідэямі ад найлепшых дызайнераў, архітэктараў, мастакоў і нават кулінараў, якія спецыяльна для навагодняга нумара ALOVAK стварылі шмат чаго цікавага!*

Фотаздымкі: Аляксандр Кладаў
*pifpaf-pro.by*

Дэкор: Юлія Трафіменка
*instagram.com/juli_trofimenko*

Месца здымкаў: Studio67
*studio67.by*

# ЕЛКА № 1

*Елка з будаўнічага вугалка*
*ад архітэктара і дызайнера Вадзіма Пракопчыка*
*facebook.com/vadzim.prakopcyk*

“Ідэя нарадзілася ў далёкія 90-я, калі новыя тэхналогіі ў аздабленні інтэр’ераў прынеслі ў наш край алюмініевы вугалок з перфарацыяй. Жаданне зрабіць “вечную ялінку” і пагуляць у гульню “усё наадварот”, – дзе жывое замяняецца нежывым, – і было асноўным матывам канцэпту. Ялінка, якая звычайна з жывога дрэва, замяняецца на нежывы метал, шышкі – на падвесы з сістэмы Knauf, іголачкі, што асыпаліся – на болцікі і гаечкі, якімі мацуюцца галінкі да ствала. База – падстаўка для ялінкі, – якая звычайна металічная – наадварот з дрэва. Менавіта такія ялінкі можна і трэба ставіць для нядбайных будаўнікоў, “дзякуючы” якім аб’екты не паспелі здаць да Новага году”.

# ЕЛКА № 2

*Елка з трохкутнай рамы*
*ад часопіса ALOVAK*

Тры драўляныя планкі, ільняная тканіна, цвікі – вось асноўныя "будаўнічыя" матэрыялы для такой елкі. Рабіць яе трэба згодна з прынцыпам падрамніка для карціны: тканіна, яна ж палатно, нацягваецца пры дапамозе мэблевага стэплера ці маленькіх цвічкоў.

*Упрыгожваць елку дапамагала майстэрня BAGO*
*vk.com/bago.handmade*

## ШАРЫ Ў ТКАНІНЕ

Для вырабу такіх шароў вам спатрэбяцца старыя цацкі і пенапластавыя нарыхтоўкі, абрэзкі тканіны і стужкі. На нашай елцы-раме яны замацаваны пры дапамозе шпілек і сашчэпак, а для таго, каб павесіць іх на звычайную елку, трэба прадугледзіць пяцельку для галінак.

## САЛАМЯНЫЯ СНЯЖЫНКІ

Такія эка-сняжынкі можна зрабіць, злучыўшы аднолькавыя па даўжыні саломінкі крыж-накрыж з дапамогай моцнай ніткі.



## ГІРЛЯНДА З ГУЗІКАЎ

Для гірлянды з гузікаў нам спатрэбіўся залаты шнурок і гузікі з какосу.

## МЕСЯЦЫ З ФЕТРУ

Месяцы, пашытыя з мяккага фетру: дзве аднолькавыя дэталі, абмятаныя ніткамі і запоўненыя ўцяпляльнікам файбертэк. Упрыгожыць іх можна пацеркамі, бісерам і пайеткамі. Не забудзьцеся пра пяцельку!



# ЕЛКА № 3

*Елка-палічка з кардону*
*ад архітэктараў Тацяны Кескевіч і Яўгена Ляшука*
*urbanplunger.com*

Каб зрабіць такую елку, вам спатрэбяцца: кардон, клей, макетны нож. Для асновы елкі трэба склеіць некалькі пластоў гафракардону. Пасля поўнага высыхання клею прарэжце ў аснове адтуліны трохкутнай альбо іншай формы. У адтуліны, якія атрымаліся, устаўце і прыклейце суадноснай формы скрыначкі без дна, папярэдне абклееўшы іх знутры шчыльнай каляровай паперай. Заклейце кожную адтуліну з адваротнага боку елкі паперай таго ж колеру, што і ўнутраныя грані скрыначак.

*Упрыгожваць елку дапамагалі размаляваныя акрылавымі фарбамі цацкі з гафракардону ад архітэктара Тацяны Несцеравай.*

# ЕЛКА № 4

*Елка з кардону*
*ад дэкаратара Юліі Трафіменка*
*instagram.com/juli_trofimenko*

Да Новага года засталося некалькі дзён, а ў вас усё яшчэ няма елкі? Не праблема! Такую елачку з кардону вы зможаце змайстраваць і ўпрыгожыць усяго за адну гадзіну. Усё, што вам спатрэбіцца, – гэта кардон і нажніцы (макетны нож) і ўпрыгожанні паводле густу.

**ПАДАРУНКІ** *для нашай елачкі запакавала мастачка Таццяна Хлапкова (instagram.com/tkhlopkova):*
«Я жудасна люблю пакаваць падарункі. У пэўны момант прыйшло ўсведамленне таго, што звычайная белая ці карычневая крафтавая папера дае намнога большы прастор для творчасці, чым набытыя рулоны спецыяльнай абгорткі для падарункаў з гатовымі малюнкамі. Я люблю выкарыстоўваць прыродныя матэрыялы і розныя недарагія дробязі, якія можна пераўтварыць у нешта зусім іншае. Так, для навагодняй упакоўкі карункавая папяровая сурвэтка стала чукчам, галінкі туі арганічна падышлі на ролю рагоў для аленя, а мох без асаблівых намаганняў проста застаўся самім сабою. Галінка хвоі «вырасла» і стала вялікім навагоднім дрэвам, упрыгожыць якое дапамаглі дзіракол і рознакаляровая папера з уласцівасцю саманаклейвання».

**ЭКА-ЕЛАЧКІ** *з імху ад фларыстычнага праекта Katarios-flowers (vk.com/katariosflowers)* склалі кампанію нашай прыгажуні з кардону. Яны зроблены з цеплынёю і любоўю, якія захоўваюць у сабе натуральныя прыродныя матэрыялы.

Для таго, каб зрабіць такія елачкі сваімі рукамі, вам спатрэбяцца: мох, аснова для елкі, галінка, невялікі гаршчок і дэкор з карыцы, бадзяну, сушаных апельсінаў, арэхаў і шышак.

Нашу елку з кардону ўпрыгожылі вязаныя сняжынкі і эка-цацкі:

## СУШАНЫЯ ДОЛЬКІ АПЕЛЬСІНУ

″Апельсінавы″ рэцэпт для навагодняга дэкору. Нарэжце апельсіны і падсушыце іх у духоўцы ці на батарэі, падклаўшы кардон ці паперу. Часта такія долькі становяцца цёмнага колеру, каб гэтага не адбылося, перад засушваннем патрымайце іх паўгадзіны ў лімоннай вадзе (на шклянку вады – сок аднаго лімону).

## АРЭХІ-ЦАЦКІ І ГІРЛЯНДА З АРЭХАЎ

Проста і прыгожа. Трэба раскалоць арэх на дзве долкі, з'есці змесціва, уставіць пяцелькі з ільнянога шпагату і склеіць дзве паловы. Вы можаце пакінуць арэхі ў іх натуральным выглядзе, а можаце пафарбаваць у любы колер. Мы абралі для гэтага белы.
Гірлянда з арэхаў робіцца па тым жа прынцыпе, толькі ўстаўляем не пяцелькі, а вяровачку. Зверху мы адцянілі арэхі белым налётам: паўсухім пэндзлем нанеслі белую фарбу.

# ЕЛКА № 5

*Елка на сцяне*
*ад архітэктара Тацяны Несцеравай*

Для рэалізацыі гэтай ідэі вам спатрэбяцца яловыя галінкі, фларыстычныя пластыкавыя прабіркі і дэкаратыўны скотч. Каб елка як мага больш часу ўпрыгожвала ваш дом, не забывайцеся падліваць ваду ў прабіркі. Пры жаданні вы можаце выкарыстоўваць галінкі ад штучнай елкі.

*Кампанію нашай елцы склалі цудоўныя мішкі, створаныя Юляй Прашковіч (instagram.com/yuyu_by)*

# КРЫШТАЛЬНАЯ СНЯЖЫНКА

*майстар-клас ад Яны Мелько (vk.com/deserre)*

Часам, каб стварыць уласнаруч нешта прыгожае, не абавязкова валодаць нейкімі спецыяльнымі ўменнямі і выкарыстоўваць дарагія матэрыялы. Каб стварыць такую сняжынку, спатрэбіцца звычайны бісер, тонкі металічны дрот і крыху ўяўлення. Мы выкарыстоўваем рубку срэбнага колеру і паўпразрысты матавы бісер, бо яны выдатна імітуюць структуру і колер сапраўднай сняжынкі.

Ход працы:

**1.** Вазьміце адрэзак дроту даўжынёю каля 30 см, прасуньце 3 пацеры на сярэдзіну адрэзка, складзіце дрот удвая і пачынайце скручваць абодва адрэзкі разам, каб зафіксіраваць пацеры. Гэта будзе вярхушка вашай сняжынкі. 7 мм будзе дастаткова.

**2.** Раз'яднайце канцы дроту, у адзін з іх прасуньце яшчэ тры пацеры і зафіксіруйце іх, закруціўшы дрот яшчэ на 5-7 мм. Паўтарыце тое ж сама з другім канцом дроту.

**3.** Аб'яднайце абодва канцы дроту разам, пракруціўшы яшчэ 1,5 см.

**4.** Зноў раз'яднайце канцы дроту і на кожны яго канец прасуньце яшчэ па 4 пацеры, закручваючы іх на адлегласці 1 см ад асновы. Паўтарыце яшчэ раз.

**5.** У выніку ў вас атрымаецца прыгожая галінка, якая стане часткай сняжынкі. Выкарыстоўваючы яе за ўзор, зрабіце яшчэ 4 такія ж.

**6.** Усе 5 галінак, што атрымаліся, складзіце разам у адзін "букет" і злучыце ўсе канцы дроту разам, пракруціўшы 3-4 разы.

**7.** Тыя канцы дроту, што засталіся, раўнамерна распраўце на адной паверхні. Пры жаданні можна ўпрыгожыць сняжынкі пацеркамі. Абрэжце лішкі дроту.

*Ваша сняжынка гатова! Натхняючыся мудрагелістай геаметрыяй сапраўдных сняжынак, вы можаце ствараць свае ўнікальныя ўзоры, эксперыментаваць з памерам і формай упрыгожанняў.*

# ЕЛКА № 6

*Елка на бутэльку*
*ад часопіса ALOVAK і майстэрні BAGO*
*vk.com/bago.handmade*

Прыбраць бутэльку шампанскага можна, апрануўшы на яе паліто-елку. Для гэтага патрэбны жорсткі шчыльны фетр і самыя разнастайныя ўпрыгожанні. Добра на такой невялікай елачцы будуць выглядаць гузікі і пацеркі рознай велічыні.

# ДУХМЯНЫ ПЕРНІК

*рэцэпт ад cakes.by*

Для цеста:

- 200 г сметанковага масла 82,5% тлустасці;
- 200 г натуральнага мёду;
- 2 яйкі;
- 200 г цукру;
- сухая парфума (гваздзіка, духмяны перац, карыца, бадзян);
- сода ½ ч. лыжкі;
- 2 ст. лыжкі натуральнага какава-парашку;
- 450-500 г мукі;
- 100 г какосавай габлюшкі;
- соль на кончыку нажа.

Для дэкору:

- 50 мл вады;
- 100 г цукру;
- цукровыя кандытарскія ўпрыгожванні.

**СУХАЯ ПАРФУМА**

Рускае кандытарскае абазначэнне набору вострых прыправаў, што ўжываюцца ў кандытарскай вытворчасці, асабліва ў пернікавай.

Кулінарны слоўнік У.В. Пахлёбкіна, 2002 г.

Пакрокавы рэцэпт:

**1.** Размягчаем сметанковае масла (пры пакаёвай тэмпературы каля гадзіны ці ў мікрахвалёвай печцы 30-60 сек.).

**2.** Гатуем "сухую парфуму": змешваем у невялікай сухой ёмістасці ўсе прыправы.

**3.** Злучаем сухія інгрэдыенты: муку, соду, цукар, соль, какаву, сухую парфуму, какосавыя габлюшкі. Узбіваем сумесь венцам да поўнага змешвання прадуктаў.

**4.** Мяккае сметанковае масла, яйкі і мёд у асобнай ёмістасці перамешваем пры дапамозе відэльца, узбіваць не трэба.

**5.** Злучаем сухія і вадкія інгрэдыенты.

**6.** Замешваем рукамі мяккае, пластычнае, некрутое цеста.

**7.** Абварочваем цеста харчовай плёнкай і прыбіраем на холад на 30-40 хвілін (можна болей).

**8.** Абсыпаем паверхню стала і качалку мукой. Раскатваем пласт цеста таўшчынёю 3-4 мм.

**9.** Для фармавання пернікаў выкарыстоўваем формачкі для печыва ці звычайную шклянку.

**10.** Выпякаем пернікі 7-9 хвілін пры тэмпературы 200-230 градусаў (залежыць ад асаблівасцяў вашай духоўкі: пернікі гатовыя, калі падрумяніліся).

**11.** Размешваем да поўнага растварэння цукар з вадой. Тым сіропам, што атрымаўся, змазваем паверхню перніка пры дапамозе пэндзліка і абсыпаем гатовы выраб кандытарскімі ўпрыгожваннямі.

*Стварыць водар і смак Калядаў вельмі проста! Атрымлівайце асалоду!*

# ЕЛКА № 7

*Майка-елка ад часопіса ALOVAK*

А чаму б не насіць елку на сабе? :) Мы намалявалі на белай майцы елку фарбамі па тканіне, загадзя выразаўшы елку з самаклейнай плёнкі і наклаўшы трафарэт на майку. Фарбу больш зручна нанасіць губкай ці невялікім валікам. Не забудзьце падкласці паперу ці плёнку ўнутр майкі, каб фарба не адпячатвалася на адваротным баку. Пасля таго, як фарба падсохне, здыміце трафарэт і прапрасуйце елачку гарачым прасам (для замацавання фарбы). Засталося толькі ўпрыгожыць нашу елку. Мы выкарыстоўвалі для гэтага невялікія пластмасавыя елачныя шары.

Няхай свята будзе там, дзе вы!

# ЕЛКА № 8

*Елка-канструктар ад тайм-клуба "Сямейны дворык"*
*vk.com/time_club_dvorik*

Галінкі такой елкі выконваюць ролю паліц, на якіх захоўваюцца цацкі, дэталі дзіцячага канструктара, настольныя гульні. Для вырабу елкі спатрэбяцца кардон, разак, металічная лінейка, клей ПВА, пэндзаль для клею. Кардон рэжам на палосы патрэбнай шырыні і даўжыні (залежыць ад вашага жадання і даступнага аб'ёму матэрыялу), робім прарэзы ў дэталях для збору канструкцыі, для трываласці некаторыя элементы склейваем паміж сабой.

Фотаздымкі: Кацярына Буто

Месца здымкаў: Тайм-клуб "Сямейны дворык"

# ЦАЦКІ З ВІННЫХ КОРКАЎ

• Каб зрабіць такія цацкі, трэба акуратна распілаваць вінныя коркі папярок на роўныя часткі. Атрыманыя кружкі можна адшліфаваць наждачнай паперай, пасля чаго склеіць паміж сабой суперклеем і перацягнуць вяровачкай (для надзейнасці яе таксама можна прыклеіць). Такія цацкі можна размаляваць акрылавымі фарбамі на воднай аснове, папярэдне развёўшы іх вадой.

• А яшчэ вы можаце проста размаляваць коркі ў выглядзе чалавечкаў. Мацаванне можна зрабіць з дапамогай шпількі: акуратна ўторкніце яе ў корак, а праз пяцельку працягніце нітачку або леску. А як вам нашы алоўкі, выразаныя з коркаў? Дарэчы, корак выдатна рэжацца звычайным канцылярскім нажом.

• Творчы патэнцыял коркаў бязмежны. Здаецца, што з іх можна зрабіць усё, што пажадаеце. Не бойцеся эксперыментаваць і падключаць дадатковыя матэрыялы – гузікі, дрот, бісер, вяровачкі, як гэта зрабіла Таццяна Хлапкова.

Стваральнікі коркавых цацак:

1, 2, 3 – Таццяна Хлапкова (*instagram.com/tkhlopkova*)

4, 5, 6 – ALOVAK



# ЕЛКІ № 9, 10, 11

*Эскізы елак*
*ад архітэктаркі і дызайнеркі Аляксандры Баярынай*
*facebook.com/vsemoe*

**9.** З дапамогай 1 паліцы, 42 апельсінаў і 2 яблыкаў можна стварыць непаўторную навагоднюю атмасферу. Паліца ў выглядзе елкі выконваецца з дрэва, пасля чаго фарбуецца і замацоўваецца на сцяне.

**10.** Калі вы выбралі папярэдні варыянт, набылі 42 апельсіны, 2 яблыкі і разгубіліся перад працай над палічкай, не смуткуйце, падвесьце апельсіны над сталом. Два з'едзеныя яблыкі прагоняць смутак канчаткова.

**11.** Вясёлыя палічкі з навагоднім настроем з'яўляюцца адначасова і елкай, і экспазіцыйнай прасторай для дзіцячых мастацкіх твораў. У гэтым годзе я рэкамендую зляпіць сваімі рукамі аб'емныя фігуркі звяроў – чым болей відаў, тым лепей. Белая елка добра падыдзе для каляровых фігурак, каляровыя ж палічкі капрызныя – для дасягнення гармоніі колераў прыйдзецца прыкласці пэўныя намаганні.

# Калядныя чытанні

*Снежань – месяц чараўніцтва і цудаў. Гэта час вязаць цёплыя рукавіцы і доўгія шалікі, заварваць гарачую гарбату з гваздзікай і карыцай, пакаваць падарункі і чытаць добрыя гісторыі. Мы падабралі для вас самыя чароўныя зімовыя кнігі з непаўторнай атмасферай Каляд.*

Тэкст: Кацярына Чарняўская
Ілюстрацыя: Дар'я Уласава

Джон Рональд Руэл Толкін

## "ЛІСТЫ КАЛЯДНАГА ДЗЕДА"

(Пераклад з англійскай мовы ну рускую "Письма Рождественского деда", К.Каралёў)

Яшчэ задоўга да напісання "Уладара пярсцёнкаў" прафесар Толкін прыдумляў для сваіх дзетак смешныя і добрыя лісты з малюнкамі ад Санты і яго чароўных памагатых: Паўночнага Мішкі, эльфа Элберэта і гномаў. Кожныя Каляды на працягу больш за дваццаць гадоў у доме Толкінаў з'яўлялася капэрта з маркай Паўночнага полюса. Гэтую падзею ўся сям'я чакала з вялікім нецярпеннем. Магчыма, пасля прачытання гэтай добрай кнігі на яшчэ адну калядную традыцыю ў вашай сям'і  пабольшае. Шчаслівых Каляд!

Тувэ Янсан

## "ЧАРОЎНАЯ ЗІМА"

(Пераклад з фінскай мовы на рускую "Волшебная зима", Л.Браўдэ)

У чароўны Мумі-дол прыйшлі халады, і да самай вясны ўсё вакол пагрузілася ў зімні сон. Але нечакана маленькі Мумі-Троль прачынаецца гэтым разам нашмат раней звычайнага. Разам з сваімі сябрамі ён катаецца з горкі на старадаўнім падносе, знаёміцца з таямнічымі жыхарамі даліны, майструе сабе гняздзечка каля пячы, ласуецца клубнічным варэннем і з нецярпеннем чакае надыходу вясны.

Чарлз Дыкенс

## "КАЛЯДНЫ ХАРАЛ"

(пераклад з англійскай мовы Г. Янкута)

Святочны аповед з прывідамі Дыкенса – сапраўдная класіка каляднай літаратуры. Кнігу можна любіць ужо толькі за неверагодную атмасферу каляднай Англіі, з яе водарам глінтвейна, рысавых пудынгаў, фаршыраваных гусей, цёмных вулачак і ўпрыгожаных амелай крамак. Аднак, у першую чаргу, гэта аповесць пра чароўнае ператварэнне Эбензера Скруджа з бяздушнага скнары ў чалавека з шырокай душой і добрым сэрцам. Аповед пра міласэрнасць, спачуванне і шчодрасць, гэтую гісторыю абавязкова захочацца перачытваць падчас кожнай куцці.



Ян Баршчэўскі

## "ШЛЯХЦІЦ ЗАВАЛЬНЯ, АБО БЕЛАРУСЬ У ФАНТАСТЫЧНЫХ АПАВЯДАННЯХ"

Зборнік фантастычных апавяданняў Яна Баршчэўскага – сапраўдная жамчужына беларускага фальклору. Доўгімі зімовымі вечарамі ў хаце шляхціца Завальні госці расказваюць новую змрочную аповесць. Чарнакніжнікі, ведзьмакі і цмокі размаўляюць з чытачом са старонак гэтай чароўнай кнігі. А старажытныя беларускія легенды і балады, сумныя і змрочныя, як шум цёмнага лесу, вучаць нас простым жыццёвым ісцінам: дабрыні, справядлівасці і здольнасці спачуваць.

# каляды
# ВЯНОК

майстар-клас ад Ксеніі Святлічнай

*Плеценыя вянкі – адзін з сімвалаў Каляд у Еўропе. Зараз я жыву ў Сербіі, і такія вянкі тут можна сустрэць усюды: на ўваходных дзвярах кватэр у шматпавярхоўках або на весніцах у прыватных дамах. Вырабляюць іх з розных матэрыялаў: яловых ці звычайных галінак, саломы, лугавых кветак з дабаўленнем шышак, каласкоў і ягад. Мінус яловага вянка – праз два тыдні іголкі з яго паабсыпаюцца. Вянок, зроблены з бярозавых галінак, можа вісець гадамі, прычым, у залежнасці ад сезону, вы можаце мяняць яго дызайн. Напярэдадні навагодніх свят у яго можна дадаць яловыя галінкі і сухія скрылькі апельсіна, вясной ажывіць кампазіцыю першым лісцем, а летам – свежымі кветкамі. Да таго ж такі вянок можа стаць выдатным падарункам, які не запатрабуе шмат грашовых і часавых выдаткаў.*

## З матэрыялаў і інструментаў вам спатрэбяцца:

Для асновы вянка:
- тонкая вяроўка;
- нажніцы;
- бярозавыя галінкі.

Для дэкору:
- засушаныя гронкі любых ягад;
- яловыя галінкі;
- лісце;
- шышкі.



Парада:

Для асновы лепей выкарыстоўваць не высахлыя галінкі, а гнуткія: яны пры згінанні не зломяцца і будуць добра трымаць форму.

## крок 1



Складзіце некалькі бярозавых галінак у адным напрамку. Пакуль не злучайце вярхушкі з іх асновамі, а размяркуйце галінкі з лісцем па ўсёй даўжыні будучай акружнасці вашага вянка.

## крок 2



Тонкай вяроўкай ці дротам даўжынёю 15-20 сантыметраў перавяжыце прыкладна пасярэдзіне пучок галінак, які атрымаўся. Вяроўку прапусціце праз асноўныя галінкі, а астатнія пакіньце звонку, пазней зробіце пляценне вакол іх, што дазволіць дасягнуць эфекту нядбайнай натуральнасці

## крок 3



Адрэжце яшчэ адзін кавалак тонкай вяроўкі. Сфармуйце з галінак акружнасць і перавяжыце яе. На дадзеным этапе вельмі істотна скласці галінкі менавіта ў кола, а не ў авал, каб далей ваш вянок не дэфармаваўся. Можаце злёгку прыдавіць перавязаную акружнасць па баках, каб згладзіць няроўнасці.

***Парады:***

• *Калі вы выкарыстоўваеце галінкі з лісцем, то на гэтым этапе можна зрэзаць лішнія лісточкі, каб лепей было відаць выгібы веццяў.*
• *Калі раптам вы заўважыце, што з аднаго боку вянок атрымаўся менш шчыльны, то гэтую праблему можна лёгка вырашыць, дадаўшы новыя галінкі і замацаваўшы іх сярод іншых.*

## крок 4



Зараз усе галінкі, што “выступаюць” з вянка, неабходна аплесці вакол асноўных галінак. Важна рабіць гэта ў адным кірунку. Тады будучы вянок будзе глядзецца акуратна.
Аснова вянка гатовая!

## крок 5



Матэрыялы для ўпрыгожання замацуйце да вянка, прасоўваючы іх скрозь галінкі. Адзін момант: пачынаць лепей з больш “цяжкіх” і аб’ёмных матэрыялаў, напрыклад, з шышак. Іх можна перавязаць вяроўкай, уставіць паміж галінак і пасадзіць на клей. А вось хісткія гронкі ягад варта замацоўваць напрыканцы.

Вянок гатовы!

Карысная інфармацыя:

Ксенія Святлічная
instagram.com/svksenia

# #выбарALOVAK

*Рэдакцыя часопіса абрала 10 тавараў з навагоднім настроем, якія стануць добрым падарункам для творчых людзей і не толькі*



Лаканічныя, але абаяльныя АЛЕНІ з калекцыі The North Tree ад дызайн-майстэрні "Поле" спадабаюцца і дарослым, і дзецям



ПАДВЕСКА-АНЁЛ з пасярэбранага дроту ад Анастасіі Фяненка зможа дапоўніць ваш навагодні ўбор



ФАРТУХІ для вялікіх і маленькіх дзяўчынак ад Jamido monofaktura



ЕЛАЧНЫЯ ЗОРКІ ручной работы ад Mandala Wonderworld створаць па-сапраўднаму цёплую атмасферу хатняга свята





Можна не баяцца сцюдзёнай зімы з утульнымі **РУКАВІЧКАМІ** ад Ані Ламакінай (брэнд Lomaki)

**ЕЛАЧНЫЯ ЦАЦКІ** Woodart ад сям'і Бусел / Пракаповіч – прыгожыя і фантазійныя





Такая мілая і стыльная – **СВЯЦІЛЬНЯ** ад сямейнай майстэрні EcoDeco

**ПАДУШКА-ЦАЦКА** "Аднарог" ад праекта Sun & Co – універсальны падарунак для сям'і з дзеткамі





**НАВАГОДНІЯ ТКАНІНЫ** з бавоўны ад крамы "Креатива" – рукадзельніцы ацэняць

Калядны **АНЁЛ** з гіпсу ад Ірыны Бельскай зроблены з любоўю, і абавязкова прыня-се шчасце ў дом.




ЗВЯРНІЦЕ ЎВАГУ!

Спампаваць каляндар з елкай ALOVAK можна на нашым сайце alovakmag.by ў раздзеле "Карыснае"

| | Студзень | Люты | Сакавік | Красавік | Травень | Чэрвень |
|---|---|---|---|---|---|---|
| пнд | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 |
| аўт | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 |
| сер | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 |
| чцв | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 |
| пят | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 |
| суб | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 |
| нядз | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 |




**Ліпень**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 4 | 11 | 18 | 25 |
| | 5 | 12 | 19 | 26 |
| | 6 | 13 | 20 | 27 |
| | 7 | 14 | 21 | 28 |
| 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |

**Жнівень**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| 4 | 11 | 18 | 25 | |
| 5 | 12 | 19 | 26 | |
| 6 | 13 | 20 | 27 | |
| 7 | 14 | 21 | 28 | |

**Верасень**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 5 | 12 | 19 | 26 |
| | 6 | 13 | 20 | 27 |
| | 7 | 14 | 21 | 28 |
| 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| 3 | 10 | 17 | 24 | |
| 4 | 11 | 18 | 25 | |

**Кастрычнік**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |

**Лістапад**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 7 | 14 | 21 | 28 |
| 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| 3 | 10 | 17 | 24 | |
| 4 | 11 | 18 | 25 | |
| 5 | 12 | 19 | 26 | |
| 6 | 13 | 20 | 27 | |

**Снежань**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 5 | 12 | 19 | 26 |
| | 6 | 13 | 20 | 27 |
| | 7 | 14 | 21 | 28 |
| 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| 4 | 11 | 18 | 25 | |

## Матэрыялы і інструменты, якія спатрэбяцца:




**Парада:**

*Звычайная гелевая асадка таксама падыдзе для ілюстрацыі, але з ёй больш складана працаваць: трэба быць уважлівым, каб не размазаць рукой папярэдне намаляваныя элементы.*

**Парада:**

*Калі будзеце выбіраць колер паперы для паштоўкі, то абавязкова ўлічыце, што на цёмным фоне малюнак можа згубляцца, калі не выкарыстоўваць спецыяльныя фламастары, асадкі і светлыя акварэльныя алоўкі, якія кантрастуюць з колерам фону.*

*Папера мусіць быць дастаткова шчыльнай, інакш паштоўка хутка дэфармуецца і згубіць свой выгляд.*



**1.** Бяром белы аркуш паперы і пачынаем маляваць на ім авал простым алоўкам. На гэтым этапе нічога не выразаем, у працэсе працы мы зможам падкарэктаваць наш малюнак і суадносна павялічыць ці паменшыць авал.

Парада:

*На ўсіх этапах працы імкнемся не цінсуць надта дужа на аловак, каб напрыканцы можна было з лёгкасцю сцерці непатрэбныя лініі гумкай.*



**2.** У авале малюем простым алоўкам нашага святочнага мішку. Загадзя прадумваем кампазіцыю.



**3.** Бяром асадку-лінер і пачынаем абводзіць мішку па контуры, лініі не павінны быць надта тлустымі, так малюнак будзе выглядаць больш акуратным. Калі працуем гелевай асадкай, то імкнемся не закранаць ужо намаляваныя элементы рукой, каб нічога не размазаць. Перыядычна даем малюнку прасохнуць.



**4.** Калі ёсць такая неабходнасць, то карэктуем наш авал, каб мішку было ў ім не надта цесна, але і не надта прасторна.

**5.** Выціраем алоўкавыя лініі.

**6.** Малюем лінерам шорстку на мішку. Працуем з дробнымі дэталямі.



**7.** Прыйшоў час каляровых алоўкаў (яны мусяць быць добра заточаныя). Я пачынаю з галавы мішкі, не націскаю задужа на аловак, каб лініі, якія мы намалявалі раней, былі бачнымі. Потым размалёўваем кубачак і світар, тут ужо можна націснуць больш моцна.



**8.** Каб алоўкі не размазваліся, можна замацаваць малюнак простым лакам для валасоў, для гэтага я распыляю невялікую колькасць лаку на наш малюнак на адлегласці 10-15 см і пакідаю на 10 хвілін да поўнага высыхання.



**9.** Калі скончым з алоўкамі, акуратна выразаем наш авал нажніцамі. Выціраем дапаможныя лініі гумкай.



**10.** Бяром чырвоную паперу і кладзём наш малюнак у левы ніжні кут. Адзначаем, колькі прыблізна месца спатрэбіцца зверху і знізу, каб усё добра глядзелася. Таксама варта ўлічваць, што паштоўка будзе складвацца ўдвая. З дапамогай алоўка і лінейкі адзначаем межы нашага вырабу і месца згінання. Выразаем будучую паштоўку канцылярскім нажом па намаляваных лініях. Складваем удвая.



**11.** Наклейваем на адваротны бок нашага малюнка двухбаковы скотч, імкнемся падысці як мага бліжэй да краю (можна выкарыстоўваць клей-аловак).



**12.** Паштоўка практычна гатовая, засталося толькі прыклеіць малюнак да асноўнай часткі і па жаданні намаляваць прыгожы абадок вакол яго, альбо сняжынкі.

Карысная інфармацыя:

Надзея Завадзкая
instagram.com/nadzia.artist

# святочны НАСТРОЙ

Тэкст: Вікторыя Анжэ
Фота: Вікторыя Анжэ, Яна Яфрэмава, Марыя Завадзская

*У школьныя гады снежань быў маім самым нелюбімым месяцам. Дарослыя, занятыя сваёй перадсвяточнай мітуснёю, надакучвалі пытаннямі: "А што б ты папрасіла ў Дзеда Мароза?", але, атрымаўшы адказ, абавязкова паведамлялі, што "для гэтага ты мусіш сябе добра паводзіць і з добрымі адзнакамі скончыць чвэрць". Пасталеўшы і пакінуўшы за плячыма школу і інстытут, магу з радасцю адзначыць для сябе, што снежань прыносіць зусім іншыя эмоцыі. Зараз ёсць час і жаданне з перадсвяточным настроем атрымліваць асалоду і задавальненне ад прыемных дробязяў, якія пераносяць нас у казачную атмасферу, нагадваюць, што ў навагоднюю ноч усе нашыя жаданні абавязкова здзейсняцца. Трэба быць цярплівымі і радавацца кожнаму перадНавагодняму дню. У гэты перыяд я асабліва люблю…*

# 1.

## Заварваць калядную гарбату

*Чорная ці зялёная духмяная гарбата з дадаткам карыцы, імбіру, цэдры лімону ці апельсіну. Яе лёгка можна прыгатаваць самому. Для гэтага трэба змяшаць усе вышэйпералічаныя складнікі і даць ім настаяцца некалькі хвілін. Асабіста я набываю такую гарбату ў невялікай адмысловай крамцы на рагу, у якой ледзь хапае месца для кагосьці іншага, апроч прадаўца. Затое паветра тут як нідзе прасякнута навагоднім настроем!*

# 2.

## Выпякаць навагодняе печыва

*Снежань – гэта заўсёды дамашняе пясочнае печыва, якое чым болей масла, мукі і карыцы (для гурманаў і імбіру), тым смачнейшае. Раскатаць цеста, выдавіць з яго формачкамі елачку, аленя, барадаты твар Дзеда Мароза і калядны боцік. Спекчы і аднесці ва ўніверсітэт ці на працу. Есці такую прыгажосць шкодна для таліі, а вось сам працэс стварэння печыва–вельмі прыемны занятак. Як мінімум задавальненне і святочны настрой вам гарантаваныя!*

# 3.

## Складаць навагодняе меню

*Нават аматары дыет лічаць, што цалкам нармальна і натуральна набраць некалькі кілаграмаў у снежні, бо мы рыхтуемся да зімы і халадоў. З такім апраўданнем як не аддацца ўсім кулінарным спакусам! Плануючы навагодняе меню, не забывайце пра традыцыйныя любімыя стравы: салат Аліўе, селядзец пад футрам, фаршыраванага карпа, мяса па-французску, бутэрброды з ікрою і вэнджанай сёмгай. А як прыемна гатаваць для родных і сяброў у святочныя вечары суп-пюрэ з запечанага гарбуза, сырную запяканку і яблычны штрудзель на дэсерт...*

# 4.

## Ствараць прыгажосць

*Напачатку снежня я заўсёды іду ў аддзел канцэлярскіх тавараў па стандартны набор крэатыўніка-аматара: клей, нажніцы, каляровая папера і кардон. Вечарамі я рэжу нажніцамі паперу, спрабуючы атрымаць мудрагелістыя сняжынкі. Калі мы вучыліся рабіць іх у школе на ўроках працы, мне больш за ўсе падабаласяназіраць за сапраўднымі сняжынкамі за вакном. Зараз працэс выразання радуе мяне значна больш. Дарэчы, у Інтэрнэце можна знайсці вялікую колькасць ідэй, што натхняюць на творчасць. Гатовыя сняжынкі наклейваю на вокны, ствараючы радасны і святочны настрой не толькі сабе, але і мінакам. Імкнуся не думаць, што ўвесну давядзецца адмываць усю гэтую прыгажосць. Рэшткі каляровай паперы заношу на працу, дзе ў абедзенны перапынак мы з калегамі выразаем тонкія рознакаляровыя палоскі, акуратна склейваем па краі і атрымліваем досыць прывабныя гірлянды.*

# 5.

## Пераглядаць улюбёныя стужкі

*Разумееце, у нас традыцыя: кожны год 31 снежня мы з сябрамі... у энны раз уключаем фільмы, каторыя нават праз экраны перадаюць фібры любові і казкі. Да наступлення Новага года я імкнуся паглядзець, як вы ўжо здагадаліся, "Іронію лёсу..." ("Ирония судьбы, или С легким паром!", 1975), а таксама "Адпачынак па абмене" ("The Holiday", 2006), "Каханне насамрэч" ("Love Actually", 2003), "Адзін дома" ("Home Alone", 1990), "Перажыць Каляды" ("Surviving Christmas", 2004). Асабліва прыемна ўпершыню за год разгарнуць газету, паглядзець тэлевізійную праграму і падкрэсліць чырвоным атрамантам час паказу любімых фільмаў.*

# 6.

## Усміхацца каляднай рэкламе

*Калі я была ў больш юным узросце і глядзела тэлевізар, то менавіта відэаролікі Кока-колы стваралі непаўторную навагоднюю атмасферу. "Праздник к нам приходит,"–падпявала з радасцю я, дастаючы з шафы гірлянды. Зараз пра набліжэнне Каляд мне нагадвае рэклама сеткі англійскага універмага John Lewis. Відэа працягласцю 1-2 хвіліны з'яўляюцца на Youtube ужо напачатку лістапада і за лічаныя дні набіраюць мільёны праглядаў.*
*Абавязкова праглядзіце відэа за 2010 і 2011 гады, асабліва калі вы не любіце падарункі і не верыце ў Дзеда Мароза:*

*youtube.com/watch?v=M0zZScVSMEw*
*youtube.com/watch?v=pSLOnR1s74o*

# 7.

## Наводзіць парадак і складаць спісы

*У снежні асабліва лёгка аналізаваць мінулы год, радавацца дасягненням і дакараць сабе за няўдачы, будаваць планы, верыць, што менавіта 1 студзеня мы прачнемся і станем больш моцнымі, мэтанакіраванымі, прыгожымі і, галоўнае, шчаслівымі. Я добра засвоіла ўрок з дзяцінства: перад Новым годам абавязкова трэба добра прыбрацца ў доме. Галоўнае, не адкладваць гэтае важнае мерапрыемства на 31 снежня, каб потым у поўнач не заваліцца знядужанай у фатэль перад тэлевізарам з думкамі "хутчэй бы ў ложак".*

# 8.

## Планаваць падарункі

*З надыходам халадоў мы пачынаем думаць пра падарункі, складаючы для пачатку спіс тых, хто добра сябе паводзіў у гэтым годзе і заслугоўвае за гэта заахвочвання. Чым даўжэйшым становіцца спіс, тым цяжэйшай – галава. У наступныя дні і тыдні мы забываем пра гэты спіс для ўласнага спакою. А за некалькі дзён (для экстрэмалаў – гадзін) да Новага года імчым у бліжні гандлёвы цэнтр, прарываемся скрозь натоўпы і чэргі, хутка хапаем усё, што просіцца ў рукі, і па прымальных коштах..*

# 9.

## Прымаць падарункі

*Калі вам пашчасціла працаваць выхавацелем, настаўнікам, лекарам, альбо вы проста харошы спагадлівы чалавек, якому пад канец года ўсе жадаюць падзякаваць, то шампанскае і цукеркі будуць вашымі спадарожнікамі практычна кожны будні дзень. Калі я працавала выкладчыцай на курсах замежных моў, то ўвесь снежань мая вячэра складалася з гэтых двух прадуктаў. Ці варта казаць, што гэта быў адзін з самых чароўных месяцаў года.*

# 10.

## Разглядаць навагоднія вітрыны

*У некаторых краінах разглядванне святочных вітрынаў – гэта сапраўдная забава, нагода выйсця ў свет. У Парыжы, напрыклад, самыя буйныя магазіны прыбіраюцца ўжо ў сярэдзіне лістапада. Кожны парыжанін ведае, што па самыя прыгожыя вітрыны трэба ісці ў гандлёвыя цэнтры Printemps ды Galeries Lafayette (аналагі беларускіх ГУМа і ЦУМа). Для дзяцей усталёўваюцца лесвіцы і мосцікі, з якіх адкрываецца шыкоўны від на мішак у шаліках Burberry і лялек у строях Dior. Гледзячы на колькасць людзей ля вітрынаў, не магу не ўзгадаць французскі выраз Faire du lèche-vitrine, што даслоўна перакладаецца як “аблізваць вітрыны”.*

# 11.

## Прасіць цуд

*Думка пра тое, што цуды адбываюцца, натхняе мяне кожны год пісаць лісты Дзеду Марозу. Для большай надзейнасці я звяртаюся то да мясцовага Дзеда Мароза з Белавежскай Пушчы (ён адзін, дарэчы, хто адказаў на маё пасланне сапраўдным лістом!), то да яго фінскага калегі. У Інтэрнэце існуе мноства сайтаў, дзе Дзеду Марозу можна дасылаць электронныя пасланні. Я не веру, што ў нябёсах сувязь працуе без перабояў, таму аддаю перавагу шарыкавай асадцы і паперы.*

*Няхай у гэтым месяцы ў вас знойдзецца час, каб спыніцца і адпачнуць, узгадаць пра тыя перадзнавагодныя дробязі, якія і робяць нашае жыццё сапраўдны святочным!*



## ДА СУСТРЭЧЫ!

**наш сайт:**

alovakmag.by

**мы ў сацыяльных сетках:**

facebook.com/alovakmag

vk.com/alovakmag

**мы ў Instagram:**

@alovakmag